*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА



5 чэрвеня 1991 г. СЕРАДА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

**Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР**

№ 108 (21636)

Цана 10 кап.



# ПАСВЕДЧАННЕ НУМАР СТО

## атрымала ўчора ў Міністэрстве юстыцыі БССР Камуністычная партыя Беларусі

Упершыню за больш як 70-гадовую сваю гісторыю Кампартыя рэспублікі (дарэчы, першай у краіне) атрымала афіцыяльнае пасведчанне, што юрыдычна пацвярджае яе статус. Чаму так атрымалася? Як падкрэсліў у сваім інтэрв'ю журналістам першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў, гэта звязана з тымі пераменамі, што адбываюцца ў грамадстве. Раней роля і месца Кампартыі рэгламентаваліся славутым шостым артыкулам Канстытуцыі СССР. Зараз, пасля яго адмены, КПБ узаконьвае сваё існаванне ў тым жа парадку, што і іншыя грамадска-палітычныя партыі, рухі, грамадскія арганізацыі.

Пры атрыманні пасведчання нумар сто з рук міністра юстыцыі БССР Леаніда Дашука А. Малафееў сказаў:

— Сённяшняя падзея важнай вяхой увойдзе ў больш чым сямідзесяцігадовую гісторыю Камуністычнай партыі Беларусі. Яна таксама служыць яркай прыкметай тых глыбокіх перамен, што адбываюцца ў нашым грамадстве.

Іх сутнасць ва ўсё ўзрастаючай патрэбнасці арганізаваць грамадскае жыццё на ясных, дакладных і строгіх прававых пачатках. І нязменнай прыхільніцай такога напрамку развіцця падзей выступае Кампартыя Беларусі.

Цяпер у рэспубліцы няма іншай сілы, якая б больш настойліва і паслядоўна, чым КПБ, выступала ў абарону канстытуцыйных асноў нашай дзяржаўнасці, дабівалася, каб ва ўсіх сферах нашага жыцця панавалі законнасць і правапарадак.

Рэгістрацыя Кампартыі Беларусі з'яўляецца пераканаўчым сведчаннем развіцця дэмакратычных працэсаў у краіне і рэспубліцы, зацвярджэння прынцыпаў прававой дзяржавы. Яна праводзіцца ў поўнай адпаведнасці з законамі Саюза ССР і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Як вядома, КПСС зарэгістравана як агульнасаюзная палітычная арганізацыя на аснове адзінага Статуту і прызнання юрысдыкцыі саюзных дзяржаўных органаў на ўсёй тэрыторыі краіны. У той жа час у адпаведнасці з пажаданнямі камуністаў рэспублікі, зыходзячы з развіцця яе дзяржаўнасці і суверэнітэту, Бюро ЦК прыняло рашэнне ўвайсці ў Міністэрства юстыцыі БССР з хадайніцтвам аб рэгістрацыі Кампартыі Беларусі як аднаго з самастойных атрадаў КПСС.

Кампартыя Беларусі з часу свайго ўтварэння стала вядучай палітычнай сілай, што аб'ядноўвае прагрэсіўныя слаі грамадства на барацьбу за жыццёвыя інтарэсы працоўных.

Працягваючы справу Кастрычніка, камуністы разам з усім народам выводзілі рэспубліку з векавой адсталасці, беднасці і бяспраўя. Мужна змагаліся яны з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Ва ўсім, чаго дамаглася Беларусь за апошнія дзесяцігоддзі, — праца, воля і энергія тысяч і тысяч камуністаў, якія разам з усімі працоўнымі рэспублікі ўзнімалі з руін і попелу гарады і сёлы, аднаўлялі народную гаспадарку, развівалі навуку і культуру.

І як бы ні спрабавалі нашы ідэйныя праціўнікі выкрасліць з біяграфіі рэспублікі гэтыя слаўныя старонкі, іх намаганні марныя. Добрыя справы назаўсёды застануцца ў памяці сумленных людзей.

Цяпер, калі ў рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне, прымаюцца намаганні да пераадолення крызісных з'яў, Кампартыя Беларусі выступае як палітычная сіла, што імкнецца кансалідаваць для гэтага ўсе прагрэсіўныя рухі, што стаяць на пазіцыях сацыялістычнага выбару.

Яна адстойвала і будзе адстойваць інтарэсы рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, іншых слаёў насельніцтва.

У гэты цяжкі для краіны час разам з камуністамі, што працуюць у Вярхоўным Савеце і ўрадзе рэспублікі, мы настойліва шукаем шляхі пераадолення цяжкасцей, павышэння жыццёвага ўзроўню людзей.

Рэгістрацыя КПБ з'яўляецца таксама адказам на проціпраўныя дзеянні тых, хто хацеў бы выцесніць яе з палітычнай сістэмы рэспублікі. Цяпер Кампартыя Беларусі будзе жыць і дзейнічаць, як і іншыя зарэгістраваныя грамадскія арганізацыі, пад аховай закона.

Віншуючы камуністаў рэспублікі з гэтай знамянальнай падзеяй, хацеў бы падкрэсліць, гаварыў А. Малафееў, неабходнасць актыўна весці работу па абнаўленню самой партыі, дэмакратызацыі ўнутрыпартыйных адносін, развіццю супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі і рухамі сацыялістычнай арыентацыі, канструктыўнага дыялогу з палітычнымі сіламі, што дзейнічаюць у рамках савецкіх законаў.

Сёння, ва ўмовах жорсткіх нападак на КПСС, як ніколі раней патрэбны згуртаванасць нашых радоў, адзінства дзеянняў партыйных арганізацый, трывалая садружнасць усіх камуністаў.

У гэтым — важнейшая перадумова ўзмацнення ўплыву Кампартыі Беларусі на ўсе бакі жыцця рэспублікі, аднаўлення яе аўтарытэту і даверу ў людзей, стабілізацыі сацыяльна-эканамічнай і палітычнай абстаноўкі.

Як падкрэсліў у размове з журналістамі міністр юстыцыі Л. Дашук, пры рэгістрацыі Кампартыі рэспублікі не рабілася ніякіх скідак, поўнасцю вытрымлівалася літара закона пры падрыхтоўцы ўсіх неабходных дакументаў (а іх, аказваецца, патрэбна нямала).

Многіх, у тым ліку і журналістаў, цікавіла пытанне: а як жа неабходны ў такіх выпадках Статут партыі? Як вядома, апошні з'езд камуністаў рэспублікі выказаўся супраць прыняцця свайго Статута, палічыўшы, што гэта можа прывесці да расколу Кампартыі краіны. Ці хапіла дальнабачнасці беларускім партыйцам? І ці няма тут супярэчнасці з законам?

Кампартыя рэспублікі кіруецца ў сваёй дзейнасці Статутам КПСС. Што датычыць праграмы, то яе канцэпцыя распрацавана і зацверджана XXXI з'ездам КПБ. У ёй улічаны асаблівасці грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, эканамічнае становішча. На аснове гэтых дакументаў і зарэгістравана КПБ, што адпавядае патрабаванням закона.

Між тым, зазначыў А. Малафееў, на яго думку, Кампартыі суверэннай Беларусі варта было б мець свой Статут. Але пераважае, як вядома, калектыўнае меркаванне. Магчыма, новыя абставіны выклічуць і новыя рашэнні.

Факт рэгістрацыі партыі — абнадзейваючы: з законам у нашай краіне пачынаюць лічыцца. Думаецца, узаконенае становішча дадасць партыі ўпэўненасці і адказнасці. Іншае нас наўрад ці выратуе.

У цырымоніі рэгістрацыі прынялі ўдзел сакратары і члены Бюро ЦК КПБ, група народных дэпутатаў БССР, прадстаўнікі грамадскасці.

**Кар. «Звязды».**
**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

# Пасяджэнне Бюро ЦК Кампартыі Беларусі

На чарговым пасяджэнні бюро ЦК КПБ разгледжана пытанне аб актывізацыі работы ў партыйных камітэтах і арганізацыях па рэалізацыі Закона БССР «Аб мовах у Беларускай ССР». Было адзначана, што абкомамі, гаркомамі, райкомамі КПБ, большасцю партарганізацый навучальных устаноў, устаноў культуры ажыццёўлены меры, якія далі магчымасць надаць новы імпульс працэсам адраджэння роднай мовы, нацыянальнай культуры. Па ініцыятыве Бюро ЦК КПБ была распрацавана праграма «Родная мова», якая стала асновай Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР.

Беларуская мова пачала шырэй выкарыстоўвацца ў штодзённай рабоце партыйных камітэтаў. У большасці з іх адкрыты курсы па яе вывучэнню. Значнае месца адводзяць пытанням моўнай палітыкі партыйныя сродкі масавай інфармацыі. У выніку сумеснай дзейнасці органаў адукацыі, партыйных камітэтаў, бацькоўскай грамадскасці, творчай, навуковай і педагагічнай інтэлігенцыі намеціліся станоўчыя тэндэнцыі ў моўнай сітуацыі ў сярэдняй і вышэйшай школе.

Разам з тым Бюро ЦК Кампартыі Беларусі канстатавала, што многія партыйныя камітэты яшчэ не прынялі мер, адэкватных патрабаванням Закона БССР «Аб мовах у Беларускай ССР», які ўступіў у дзеянне з 1 верасня 1990 г.

Бюро ЦК КПБ рэкамендавала аддзелам ЦК сумесна з пастаяннымі камісіямі вывучыць работу партыйных камітэтаў, камуністаў-кіраўнікоў дзяржаўных і гаспадарчых органаў рэспублікі па рэалізацыі Закона «Аб мовах у Беларускай ССР». Матэрыялы гэтага аналізу намечана разгледзець на пленуме ЦК КПБ па пытаннях культурнай палітыкі.

У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета БССР «Аб парадку ўвядзення Закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР», Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР партыйныя камітэты ў 1991—1993 гадах пяройдуць да вядзення дакументацыі і справаводства на беларускай, а ў неабходных выпадках — на беларускай і рускай мовах. У сувязі з гэтым пры партыйных камітэтах, грамадска-палітычных цэнтрах абкомаў КПБ будзе расшырана сетка курсаў па вывучэнню беларускай мовы, выдадзены на ёй нарматыўна-метадычныя дакументы КПСС і КПБ. Устаноўлена, што партыйныя работнікі павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў. На працягу трох гадоў прадугледжваецца перайсці да выкарыстання беларускай мовы як рабочай пры правядзенні з'ездаў, канферэнцый, пленумаў, пасяджэнняў калегіяльных органаў партыйных камітэтаў, сходаў, нарад.

Курсы беларускай мовы і літаратуры, гісторыі і культуры Беларусі ўключаюцца ў вучэбныя планы і праграмы Інстытута паліталогіі і сацыяльнага кіравання Кампартыі Беларусі, на родную мову пераводзіцца выкладанне рада сацыяльна-палітычных дысцыплін.

Партыйным камітэтам рэкамендавана разам з заснавальнікамі шматтыражных, раённых, аб'яднаных, гарадскіх і абласных газет арганізаваць выпуск старонак на беларускай мове, а таксама на мовах груп насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі рэгіёна, практыкаваць публікацыю ў партыйным друку, што выходзіць на рускай мове, матэрыялаў на мове арыгінала.

Ход выканання дадзенага рашэння Бюро ЦК КПБ намечана штогод аналізаваць у Сакратарыяце ЦК.

На пасяджэнні Бюро разгледжана выкананне крытычных заўваг і прапаноў, выказаных на XXXI з'ездзе Кампартыі Беларусі. Адзначалася, што многія з іх рэалізаваны або ўлічаны пры распрацоўцы праграмы дзеянняў ЦК і Кантрольнай камісіі Кампартыі Беларусі па выкананню рашэнняў з'езда, у планах работы Бюро, Сакратарыята, пастаянных камісій, аддзелаў ЦК.

Аднак прынятыя меры пакуль што зрабілі недастаткова эфектыўны ўплыў на абнаўленне дзейнасці партыйных камітэтаў і арганізацый, стабілізацыю грамадска-палітычнай абстаноўкі ў рэспубліцы і не могуць лічыцца вычарпальнымі. Аддзелы ЦК, многія партыйныя камітэты, пярвічныя партарганізацыі не заўсёды дзейнічаюць ініцыятыўна, з улікам сітуацыі, якая хутка мяняецца, не ва ўсім актыўна і энергічна дабіваюцца выканання партыйных рашэнняў.

Неабходна больш прадметна займацца арганізатарскай, ідэалагічнай работай непасрэдна ў пярвічных партарганізацыях, аказваць ім канкрэтную дапамогу ў абнаўленні стылю і метадаў дзейнасці, арганізацыйна-палітычным умацаванні. Неабходна ўзмацніць увагу да пытанняў партыйнай дысцыпліны, павышэння светапогляднага ўзроўню камуністаў, вывучэння і прагназіравання грамадскай думкі, узаемадзеяння са сродкамі масавай інфармацыі. Трэба ажыццявіць канкрэтныя крокі да развіцця канструктыўнага супрацоўніцтва з Саветамі народных дэпутатаў, прафсаюзнымі, маладзёжнымі арганізацыямі і рухамі, нарошчваць намаганні па стварэнню сацыяльных гарантый для насельніцтва ва ўмовах пераходу да рыначных адносін, ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Бюро ЦК намеціла ажыццявіць рад дадатковых мер па ўдасканаленню работы навукова-навучальных устаноў Кампартыі Беларусі, а таксама зацвердзіла бюджэт КПБ: па даходах у суме 36.665,0 тыс. рублёў, расходах у суме 61.250,0 тыс. рублёў і асігнаваннях з бюджэту КПСС у суме 24.585,0 тыс. рублёў.

На пасяджэнні Бюро былі разгледжаны і некаторыя іншыя пытанні ўнутрыпартыйнага жыцця.

**Прэс-служба ЦК КПБ.**

# Патрэбна жывая штодзённая работа

У Цэнтральным Камітэце КПБ адбылося сумеснае пасяджэнне пастаяннай камісіі ЦК КПБ па рабоце з пярвічнымі партарганізацыямі і партыйнымі камітэтамі і пастаяннай камісіі Кантрольнай камісіі КПБ па кантролю за выкананнем праграмных дакументаў КПСС і КПБ, Статута КПСС, рашэнняў партыйных з'ездаў і канферэнцый. Разгледжаны праект «Арганізацыйных асноў дзейнасці Кампартыі Беларусі ў сучасных умовах». Гэты дакумент падрыхтаваны ў адпаведнасці з даручэннем XXXI з'езда Кампартыі Беларусі і адлюстроўвае спецыфіку работы партарганізацый рэспублікі.

У выступленнях на пасяджэнні М. П. Еўтух — першы сакратар Бярозаўскага райкома КПБ, А. А. Каханоўскі — намеснік галоўнага канструктара Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна, Р. С. Калеснік — сакратар парткома калгаса імя Дзяржынскага Дзяржынскага раёна, І. Д. Стадуб — сакратар парткома Мінскага інстытута культуры, А. П. Дварэцкі — дырэктар Магілёўскага філіяла доследна-канструктарскага бюро аўтаматыкі НВА «Хімаўтаматыка», В. А. Шчукін — машыніст кранатрубаўкладчыка БМУ-2 трэста «Шчокінгазбуд», Я. М. Бабосаў — дырэктар Інстытута сацыялогіі АН БССР і іншыя адзначалі патрэбнасць Кампартыі Беларусі ў такім дакуменце, які можна было б у перспектыве разглядаць як аснову Статута КПБ. Прынята рашэнне апублікаваць праект у партыйным друку і ў далейшым з улікам заўваг і прапаноў камуністаў рэспублікі абмеркаваць на пленуме ЦК КПБ.

Затым на пасяджэнні камісіі ЦК КПБ па рабоце з пярвічнымі партарганізацыямі і партыйнымі камітэтамі абмеркавана дзейнасць партыйных камітэтаў аршанскага завода «Чырвоны Кастрычнік», мікашэвіцкага вытворчага аб'яднання «Граніт», Магілёўскага вытворчага аб'яднання шаўковых тканін. Члены ЦК КПБ М. А. Пятрушын, А. Т. Клімянкоў, А. В. Козыр, Г. К. Капанік, якія выступілі з інфармацыяй, выказвалі сур'ёзную заклапочанасць становішчам спраў у гэтых партарганізацыях. У іх зацягнуўся працэс стабілізацыі партыйных радоў, парткомы не выкарыстоўваюць усе магчымыя формы арганізатарскай і ідэалагічнай работы, каб давесці да камуністаў рашэнні КПСС, КПБ і арганізаваць іх выкананне. Многія камуністы пасіўныя, самаўхіліліся ад партыйных абавязкаў. Прамоўцы адзначалі таксама неабходнасць выпрацоўкі новых падыходаў да кадравай палітыкі партыі, прынцыповай ацэнкі дзеянняў камуністаў, якія разлагаюць партыю знутры.

Камісіяй выказаны прапановы па паляпшэнню партыйнай работы ў гэтых арганізацыях.

На камісіі таксама разгледжаны і ў асноўным адобраны некаторыя рэкамендацыі па актывізацыі членаў ЦК КПБ.

Старшынствавалі і выступілі на пасяджэннях камісій А. С. Камай, В. А. Пячэннікаў.

**Прэс-служба ЦК КПБ.**

# ЦАНА ПАПРАЎКІ

**На сесіі Вярхоўнага Савета БССР пасля бурных дэбатаў прыняты Закон «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці вёскі і аграпрамысловага комплексу». Карэспандэнт БЕЛТА сустрэўся з адным з удзельнікаў дыскусіі народным дэпутатам Беларускай ССР другім сакратаром ЦК КПБ А. С. КАМАЕМ.**

**— Аляксей Сцяпанавіч, пры абмеркаванні праекта гэтага закона вы настойвалі на ўнясенні ў яго папраўкі аб дзяржаўных гарантыях сацыяльнай абароны, павышэнні жыццёвага ўзроўню сялянства. Абсалютная большасць народных дэпутатаў вас падтрымала. Чым была выклікана гэта прапанова?**

— Прапанова аб унясенні ў закон палажэння аб адказнасці дзяржавы за падтрыманне жыццёвага ўзроўню вяскоўцаў мною ўнесена ў сувязі з рэальнай, цяжкай сітуацыяй, якая складваецца ў вёсцы ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі.

Некіруемы рост цэн на прамысловую прадукцыю, будаўніцтва, паслугі стварыў такую сітуацыю, што сельская гаспадарка рэспублікі павінна будзе зрабіць некампенсуемых затрат амаль на 4 млрд. рублёў. Гэта больш, чым увесь прыбытак, атрыманы калгасамі і саўгасамі ў 1990 годзе (3,6 млрд. рублёў). У такой абстаноўцы акажуцца стратнымі каля 60 працэнтаў гаспадарак. А гэта значыць, па-першае, што яны не будуць мець крыніц фінансавання нават для простага ўзнаўлення. Хочам мы таго ці не, пачнецца згортванне нерэнтабельных галін.

Па-другое, калгасы і саўгасы будуць вымушаны ўразаць свае праграмы сацыяльнага развіцця, што затармозіць паляпшэнне ўмоў працы і быту сельскіх жыхароў.

Па-трэцяе, калгасы і саўгасы не змогуць павялічваць аплату працы работнікам, дапамагаць малазабяспечаным пенсіянерам, інвалідам і іншым катэгорыям грамадзян, якія маюць патрэбу ў гэтым. У выніку яшчэ хутчэй пачне пагаршацца дэмаграфічная сітуацыя ў вёсцы, узмоцніцца міграцыя ў горад. А яна і так вялікая. За 1990 год пакінулі вёску і перабраліся ў горад 50 тыс. сельскіх жыхароў. Пакуль што адрозненні паміж гарадам і вёскай павялічваюцца. Напрыклад, у 1990 годзе ў разліку на 1.000 жыхароў гарадоў пабудавана жылля 587 кв. метраў, а на 1.000 сельскіх жыхароў — толькі 345 кв. метраў. Толькі 17 працэнтаў сельскіх населеных пунктаў маюць водаправод. Значная колькасць населеных пунктаў элементарна нядобраўпарадкавана. Да гэтага года вяскоўцам менш выдзялялася ў разліку на душу насельніцтва прамысловых і харчовых тавараў, ды і цэны на іх былі вышэйшыя.

Або возьмем заработную плату. Хто ведае ўмовы, у якіх працуе даярка, механізатар, той, вядома, скажа, што іх праца павінна аплачвацца значна вышэй, набліжацца да аплаты тых, хто працуе ў складаных умовах. На справе ж сярэдняя зарплата даяркі цяпер ледзь перавышае 300 рублёў, механізатара — 250 рублёў.

Сяляне разумеюць сваю адказнасць перад грамадствам, працягваюць сумленна выконваць свой хлебаробскі абавязак, і яны маюць права спадзявацца, што грамадства, дзяржава адпаведным чынам ацэняць гэта.

Але нават у разглядаемай цяпер на сесіі Вярхоўнага Савета БССР Дзяржаўнай праграме БССР па сацыяльнай абароне насельніцтва і стабілізацыі эканомікі запісана: «...забяспечыць павелічэнне ў 1992 годзе сярэдняй заработнай платы працуючых у сферы матэрыяльнай вытворчасці ў 1,5—2 разы». У адносінах жа да сельскіх працаўнікоў: «...далейшае павелічэнне заработнай платы работнікам сельскай гаспадаркі звыш кампенсацый з бюджэту ажыццяўляць за кошт сродкаў гаспадарак па меры паляпшэння іх фінансавага стану». Аднак фінансавы стан не можа палепшыцца пры адсутнасці парытэту цэн. Вось гэта і выклікала ў мяне жаданне разам з іншымі дэпутатамі-камуністамі прапанаваць да закона папраўку наступнага зместу: «Дзяржава гарантуе сацыяльную абарону сялянства, павышэнне яго жыццёвага ўзроўню...»

**— А як вы ацэньваеце закон у цэлым?**

— Гэта па сутнасці першая буйная заканадаўчая акцыя на карысць сялянства, як бы першае афіцыяльнае прызнанне грамадствам неабходнасці ўсенароднай дапамогі сельскаму працаўніку. Лічу, што прыняцце закона стане стымулам для вяскоўцаў, уселіць у іх аптымізм і ўпэўненасць у будучыні. Бо вёска атрымлівае дзяржаўную гарантыю на сацыяльнае развіццё і ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы. Для яе законам устанаўліваецца цвёрдая доля ў дзяржаўных капітальных укладаннях, у бюджэце рэспублікі, у матэрыяльна-тэхнічных рэсурсах, прадастаўляюцца льготы і перавагі гаспадаркам і сельскім жыхарам. А галоўнае, паўтаруся, закон гарантуе эквівалентнасць тавараабмену паміж сельскай гаспадаркай і іншымі галінамі, аб чым многа было сказана і напісана. Такі закон даўно чакалі сельскія працаўнікі.

# ЗАЯВА

## прэзідыума Цэнтральнай Кантрольнай Камісіі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

На 12 чэрвеня Ленсаветам назначаны рэферэндум аб перайменаванні Ленінграда ў Санкт-Пецярбург.

Для многіх пакаленняў савецкіх людзей, камуністаў, Ленінград — гэта не проста геаграфічны пункт на карце. Гэта сімвал рэвалюцыі, даніна павагі да чалавека, які стаяў ля вытокаў першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. Ленінград і ленінградцы здзівілі ўвесь свет сваёй мужнасцю і стойкасцю ў трагічныя блакадныя 900 дзён і начэй.

І сёння горад Леніна — гэта наша жывая гісторыя з яе светлымі і горкімі старонкамі, нашы боль і надзея. Ён належыць і загінуўшым і жывым. Ён належыць усёй краіне, усяму савецкаму народу.

У гэтыя дні ў цэнтральныя органы партыі, у сродкі масавай інфармацыі паступаюць шматлікія звароты камуністаў, людзей розных палітычных поглядаў, узростаў і нацыянальнасцей. Іх абурае маральная глухата, непрыкрыты цынізм тых, хто спрабуе перакрэсліць савецкі перыяд нашай гісторыі, кінуць цень на Леніна.

Ніхто не мае права пераступаць чалавечыя законы, не лічыцца з воляй мільёнаў савецкіх людзей, выконваючы якую II з'езд Саветаў СССР прысвоіў гораду на Няве імя Леніна.

Палітычныя гульні вакол перайменавання Ленінграда — гэта і спроба пэўных колаў сарваць цяперашні працэс кансалідацыі грамадства, выклікаць новы віток проціcтаяння, адцягнуць народ ад вырашэння надзённых праблем.

Мы заклікаем камуністаў, усіх сумленных людзей сказаць сваё рашучае НЕ арганізатарам недастойнай акцыі па перайменаванню Ленінграда.

Спадзяёмся, што свае слова скажуць Вярхоўныя Саветы СССР і РСФСР, а таксама Прэзідэнт краіны.

# Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР

Камітэт па Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што прыём работ на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР 1992 года праводзіцца да 31 снежня 1991 года.

Работы прадстаўляюцца адпаведна парадку, прадугледжанаму палажэннем аб прэміях і інструкцыяй, якую можна атрымаць у камітэце.

Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем работ і афармленнем іх для прадстаўлення, просім звяртацца ў Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР: 220600, Мінск, вул. Фрунзе, 5 (3-ці паверх, пакой 309). Тэлефоны: 36-86-71, 36-90-76.

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

ПРАЕКТ

# Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

# АБ НАБЫЦЦІ ГРАМАДЗЯНАМІ І ЮРЫДЫЧНЫМІ АСОБАМІ АБ'ЕКТАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАСНАСЦІ

## (аб прыватызацыі)

Гэты Закон вызначае агульныя прававыя, эканамічныя і арганізацыйныя асновы працэсу прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці на тэрыторыі Беларускай ССР, устанаўлівае асноўныя правілы і парадак набыцця правоў уласнасці на гэтыя аб'екты грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі.

Закон накіраваны на фарміраванне інстытута ўласнасці грамадзян на сродкі вытворчасці, забеспячэнне рэальнай разнастайнасці форм уласнасці, неабходнай для пераходу да рынячнай эканомікі.

### Раздзел І. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Паняцце прыватызацыі**

Прыватызацыя — передача права ўласнасці на прадпрыемствы, маёмасныя комплексы і іншую маёмасць ад дзяржавы да грамадзян і тых юрыдычных асоб, дзейнасць якіх заснавана на недзяржаўных формах уласнасці.

У выніку прыватызацыі дзяржава страчвае права валодання, распараджэння, карыстання аб'ектамі дзяржаўнай маёмасці, а дзяржаўныя органы — права кіравання імі.

**Артыкул 2. Заканадаўства Беларускай ССР аб прыватызацыі**

Гэтым Законам устанаўліваюцца ўмовы набыцця грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі, дзейнасць якіх заснавана на недзяржаўных формах уласнасці, аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці.

Асаблівасці набыцця аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці замежнымі юрыдычнымі асобамі і грамадзянамі рэгулююцца заканадаўствам аб замежных інвестыцыях.

Прыватызацыя зямельнага і жыллёвага фонду рэгулюецца іншымі заканадаўчымі актамі.

Адносіны, якія ўзнікаюць у працэсе прыватызацыі, не прадугледжаныя гэтым Законам, рэгулююцца адпаведным заканадаўствам Беларускай ССР.

**Артыкул 3. Аб'екты прыватызацыі**

Прыватызацыя аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці дапускаецца ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Аб'ектамі прыватызацыі могуць быць дзяржаўныя прадпрыемствы (аб'яднанні), арганізацыі, структурныя адзінкі аб'яднанняў, вытворчасці, цэхі, іншыя падраздзяленні прадпрыемстваў, арганізацый як адзіныя маёмасныя комплексы.

Аб'екты дзяржаўнай уласнасці не падлягаюць прыватызацыі ў выпадках, калі:

іх функцыяніраванне звязана з пагрозай для жыцця і здароўя людзей, а таксама асобым рэжымам кіравання;

захаванне іх у дзяржаўнай уласнасці дыктуецца інтарэсамі абароназдольнасці і бяспекі дзяржавы;

яны неабходны для выканання дзяржаўнымі органамі ўскладзеных на іх функцый;

на іх дзейнасць распаўсюджваецца манаполія дзяржавы.

Віды аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, якія не падлягаюць прыватызацыі, устанаўліваюцца заканадаўствам Беларускай ССР.

**Артыкул 4. Суб'екты, якія набываюць дзяржаўную маёмасць**

Суб'ектамі, якія набываюць дзяржаўную маёмасць, могуць быць:

грамадзяне, працоўныя калектывы, юрыдычныя асобы, дзейнасць якіх заснавана на недзяржаўных формах уласнасці, Беларускай ССР;

грамадзяне і юрыдычныя асобы іншых саюзных (аўтаномных) рэспублік;

замежныя грамадзяне і юрыдычныя асобы.

Юрыдычнай асобай, дзейнасць якой заснавана на недзяржаўных формах уласнасці, прызнаецца юрыдычная асоба, больш 50 працэнтаў статутнага фонду (статутнага капіталу) якой не належыць дзяржаве і не кантралюецца ёй.

Удзел грамадзян іншых саюзных (аўтаномных) рэспублік, замежных грамадзян у прыватызацыі ўласнасці вырашаецца ў адносінах да рэспубліканскай уласнасці Саветам Міністраў Беларускай ССР, у адносінах да камунальнай уласнасці — адпаведным мясцовым Саветам.

У якасці суб'екта прыватызацыі не могуць выступаць прадстаўнікі органаў дзяржаўнай і выканаўчай улады: народныя дэпутаты, работнікі выканаўчых органаў улады і праваахоўных органаў, работнікі органа кіравання дзяржаўнай маёмасцю, за выключэннем бязвыплатнай прыватызацыі належнай кожнаму грамадзяніну вартасці дзяржаўнай маёмасці і пакупкі на агульных падставах акцый, якія рэалізуюцца на свабодным рынку каштоўных папер.

**Артыкул 5. Умовы і асноўныя прынцыпы правядзення прыватызацыі**

Абавязковымі ўмовамі правядзення прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай маёмасці з'яўляюцца:

наяўнасць заяўкі на прыватызацыю маёмасці, якая падаецца ў Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў БССР або яго тэрытарыяльнаму органу, або органу прыватызацыі мясцовага Савета народных дэпутатаў, ці адпаведнага запісу ў спісах, вызначаных праграмамі прыватызацыі;

апублікаванне інфармацыі аб аб'екце, які прыватызуецца, і выкананне неабходных патрабаванняў, што мае на ўвазе канкурэнцыю суб'ектаў прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці.

Заканадаўствам Беларускай ССР, а таксама рашэннямі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў могуць устанаўлівацца дадатковыя ўмовы правядзення прыватызацыі.

Асноўнымі прынцыпамі правядзення прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай маёмасці з'яўляюцца:

размежаванне кампетэнцыі па ажыццяўленню прыватызацыі паміж органамі ўлады і кіравання рознага ўзроўню;

дыферэнцыраванасць метадаў, форм і працэдур прыватызацыі;

прыярытэт платных форм прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці;

прадастаўленне кожнаму грамадзяніну Беларускай ССР права на бязвыплатнае атрыманне часткі дзяржаўнай маёмасці;

прадастаўленне членам працоўных калектываў і іншым грамадзянам ільгот пры ажыццяўленні прыватызацыі;

улік інтарэсаў працоўнага калектыву пры выбары форм і вызначэння парадку прыватызацыі;

кантроль за ажыццяўленнем прыватызацыі з боку дзяржавы.

### Раздзел ІІ. АРГАНІЗАЦЫЯ І ПАРАДАК ПРАВЯДЗЕННЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Артыкул 6. Органы прыватызацыі**

Пры ажыццяўленні прыватызацыі аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці інтарэсы дзяржавы як уласніка прадстаўляе Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР і яго тэрытарыяльныя органы, а аб'ектаў камунальнай уласнасці — органы прыватызацыі мясцовых Саветаў (у далейшым — органы прыватызацыі).

**ВАРЫЯНТ.**

Арганізацыю работ па прыватызацыі забяспечвае Дзяржаўны камітэт прыватызацыі Беларускай ССР, які ствараецца па рашэнню Вярхоўнага Савета Беларускай ССР у саставе Савета Міністраў Беларускай ССР, і яго тэрытарыяльныя органы.

Прадстаўніком інтарэсаў дзяржавы як уласніка маёмасці (прадаўцом) пры правядзенні прыватызацыі прадпрыемстваў з'яўляецца Беларускі фонд дзяржаўнай маёмасці — дзяржаўная фінансавая кампанія, якая дзейнічае на камерцыйных пачатках, ствараецца па рашэнню Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і падсправаздачная толькі яму.

**Артыкул 7. Праграмы прыватызацыі**

Прыватызацыя ў Беларускай ССР ажыццяўляецца ў адпаведнасці з праграмамі, якія распрацоўваюцца Камітэтам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР, органамі па прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў тэрмінам не менш чым на адзін год.

Праграмы прыватызацыі аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці зацвярджаюцца Саветам Міністраў Беларускай ССР, а праграмы прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасці — адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

У праграмах вызначаюцца мэты, прыярытэты і абмежаванні пры правядзенні прыватызацыі.

Праграмы ўключаюць:

абгрунтаванне выбару Камітэтам аб'ектаў і форм прыватызацыі, метадаў ацэнкі аб'ектаў, спосабаў плацяжу;

прагноз развіцця прыватызацыі ў галіновым і рэгіянальным аспектах;

віды (групы) аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, як тых, якія не падлягаюць прыватызацыі ў дадзеным перыядзе, так і намечаных да прыватызацыі;

магчымыя льготы для юрыдычных асоб і грамадзян;

нарматывы размеркавання атрыманых у працэсе прыватызацыі грашовых сродкаў і іншыя нарматывы;

матэрыяльныя, фінансавыя і арганізацыйныя адносіны Камітэта і яго органаў з іншымі органамі дзяржаўнай улады і кіравання.

Мэты і прыярытэты пры выбары аб'ектаў і форм прыватызацыі, метадаў ацэнкі аб'ектаў і спосабаў плацяжу вызначаюцца зыходзячы з наступных крытэрыяў:

стварэння канкурэнтнага асяроддзя для эфектыўнага функцыяніравання рыначнай эканомікі;

абнаўлення вытворчасці і павелічэння яго аб'ёмаў;

фінансавай эфектыўнасці продажу аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці;

задавальнення патрэбнасцей людзей, якія жывуць у дадзеным рэгіёне або працуюць на дадзеным прадпрыемстве;

забеспячэння эканамічнай незалежнасці, сацыяльнай стабільнасці і бяспекі дзяржавы.

**Артыкул 8. Ініцыятыва ў правядзенні прыватызацыі**

Прыватызацыя аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці можа праводзіцца па ініцыятыве:

працоўнага калектыву прадпрыемства, яго структурных падраздзяленняў і філіялаў;

грамадзян Беларускай ССР, грамадзян іншых саюзных рэспублік і замежных дзяржаў;

юрыдычных асоб;

органаў прыватызацыі.

Заяўка на набыццё аб'екта падаецца ў адпаведны орган прыватызацыі. Форма заяўкі ўстанаўліваецца Камітэтам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

Заяўка працоўнага калектыву прымаецца да разгляду пры ўмове згоды на прыватызацыю больш за палову членаў працоўнага калектыву.

У выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Беларускай ССР, суб'ект, які набывае дзяржаўную маёмасць, у неабходных выпадках павінен мець ліцэнзію на права вядзення адпаведнай дзейнасці.

**Артыкул 9. Прыватызацыя па ініцыятыве органаў прыватызацыі**

Рашэнне аб прыватызацыі па ініцыятыве органаў прыватызацыі з улікам меркавання адпаведных міністэрстваў, ведамстваў і выканкомаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў даводзіцца да працоўнага калектыву прадпрыемства. На працягу месяца з дня атрымання пісьмовага паведамлення працоўны калектыў ва ўстаноўленай форме пацвярджае сваю згоду на ўдзел у прыватызацыі дадзенага аб'екта або адхіляе прапанову. Для пацвярджэння згоды на прыватызацыю з боку працоўнага калектыву неабходна станоўчае рашэнне больш за палову яго членаў.

Неатрыманне адказу ў месячны тэрмін лічыцца роўным адмове ад удзелу ў прыватызацыі.

Пры адмове працоўнага калектыву ад удзелу ў прыватызацыі адпаведныя органы прыватызацыі ў двухтыднёвы тэрмін прымаюць канчатковае рашэнне аб правядзенні або прыпыненні прыватызацыі дадзенага аб'екта. Рашэнне аб правядзенні прыватызацыі можа быць абскарджана працоўным калектывам у судовым парадку.

Прыватызацыя без згоды працоўнага калектыву можа ажыццяўляцца ў адносінах да прадпрыемстваў:

уключаных у дзяржаўныя праграмы прыватызацыі;

прыватызацыя якіх праводзіцца па ініцыятыве органаў, упаўнаважаных кіраваць дзяржаўнай маёмасцю.

**Артыкул 10. Парадак прыняцця рашэння аб прыватызацыі**

Рашэнне аб прыватызацыі прадпрыемства рэспубліканскай ці камунальнай уласнасці прымаецца адпаведным органам прыватызацыі.

Рашэнне аб прыватызацыі прымаецца на працягу двух месяцаў з дня ўнясення прапановы і даводзіцца ў пісьмовай форме да суб'екта, які выступіў з прапановай аб прыватызацыі, і працоўнага калектыву.

У выпадку прыняцця адмоўнага рашэння аб прыватызацыі прадпрыемства орган, які прыняў рашэнне, павінен разам з адпаведным абгрунтаваннем адмовы ўказаць умовы, пры якіх прыватызацыя можа быць ажыццёўлена.

Адмова ў набыцці аб'екта дзяржаўнай уласнасці можа быць у выпадку, калі:

асоба, якая падала заяву, не можа выступаць суб'ектам прыватызацыі;

ёсць заканадаўча ўстаноўленае абмежаванне на прыватызацыю таго віда дзяржаўнай уласнасці, да якога адносіцца дадзены аб'ект;

прыватызацыя аб'екта не ўваходзіць у кампетэнцыю органаў прыватызацыі.

Рашэнне аб прыватызацыі рэспубліканскай уласнасці, прынятае тэрытарыяльным органам Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР, можа быць перагледжана гэтым Камітэтам па ўласнай ініцыятыве ці па прадстаўленню трэціх асоб.

Рашэнне органаў прыватызацыі аб прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці або адмове ў яго правядзенні, а таксама неразгляд прапановы ва ўстаноўлены тэрмін можа быць абскарджана ў судовым парадку.

**Артыкул 11. Камісія па прыватызацыі**

Пры станоўчым рашэнні аб прыватызацыі аб'екта дзяржаўнай уласнасці Камітэтам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР, яго тэрытарыяльнымі органамі і органамі прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў ствараецца камісія па прыватызацыі, якая арганізуе выкананне работ, звязаных з прыватызацыяй канкрэтнага аб'екта.

У састаў камісіі ўключаюцца прадстаўнікі ўласніка, адміністрацыі, працоўнага калектыву, яго прафсаюзнай арганізацыі, фінансавага органа, банка, іншыя спецыялісты.

Камісія па прыватызацыі можа фарміраваць групы экспертаў па асобных напрамках работы, прыцягваць кансультацыйныя, аўдзітарскія і іншыя арганізацыі з аплатай за кошт сродкаў прадпрыемства, якое прыватызуецца.

Камісія сумесна з адміністрацыяй прадпрыемства рыхтуе па ўстаноўленай форме неабходную інфармацыю аб прадпрыемстве, якое пераўтвараецца, для суб'ектаў, што ўдзельнічаюць у прыватызацыі, а таксама для грамадскасці.

Камісія складае план прыватызацыі аб'екта дзяржаўнай уласнасці.

План прыватызацыі ўключае: выбар формы прыватызацыі, пры неабходнасці — праект рэарганізацыі прадпрыемства, вызначэнне вартасці аб'екта, форму плацяжу (разлікаў). З улікам канкрэтных умоў у план прыватызацыі могуць уключацца і іншыя пытанні.

У выпадку адхілення плана прыватызацыі працоўным калектывам прадпрыемства камісія па прыватызацыі павінна прапанаваць іншы варыянт плана. Пры паўторным адхіленні плана прыватызацыі працоўным калектывам канчатковае рашэнне аб формах і парадку правядзення прыватызацыі прымае адпаведны орган прыватызацыі.

**Артыкул 12. Ацэнка вартасці аб'ектаў прыватызацыі**

Ацэнку вартасці аб'екта дзяржаўнай уласнасці, які прыватызуецца, ажыццяўляе камісія па прыватызацыі на аснове нарматыўных дакументаў, што зацвярджаюцца Камітэтам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў Беларускай ССР.

У састаў маёмасці, якая ацэньваецца, уключаюцца асноўныя фонды, матэрыяльныя абаротныя сродкі, фінансавыя актывы, незавершанае будаўніцтва.

Ацэнка вартасці аб'ектаў прыватызацыі ажыццяўляецца двума метадамі:

на аснове рыначнай вартасці, якая ўлічвае прыбытковасць прадпрыемства, што прыватызуецца, магчымы попыт на выпускаемую прадукцыю, месцазнаходжання прадпрыемства і іншыя фактары;

на аснове балансавай вартасці аб'екта прыватызацыі, якая вызначаецца па выніках інвентарызацыі яго маёмасці.

Ацэнка вартасці аб'екта прыватызацыі на аснове рыначнай вартасці прымяняецца, як правіла, для маёмасці рэнтабельнага прадпрыемства.

Метад ацэнкі па балансавай вартасці аб'екта прыватызацыі выкарыстоўваецца, як правіла, для нізкарэнтабельных і стратных прадпрыемстваў, а таксама пры ліквідацыі прадпрыемстваў.

**Артыкул 13. Падрыхтоўка аб'екта дзяржаўнай уласнасці да прыватызацыі**

Падрыхтоўка аб'екта дзяржаўнай уласнасці да прыватызацыі ўключае вызначэнне саставу маёмаснага комплексу, які падлягае прыватызацыі, інвентарызацыю яго вытворчых і невытворчых фондаў (ацэнку актываў і пасіваў), у выпадку неабходнасці — рэарганізацыю гэтага аб'екта, правядзенне растлумачальнай работы ў працоўным калектыве і вырашэнне іншых пытанняў з улікам спецыфікі аб'екта.

Орган прыватызацыі па прапанове камісіі па прыватызацыі прымае рашэнне аб парадку і ўмовах выкарыстання аб'ектаў вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры, якія знаходзяцца на балансе прадпрыемства, зыходзячы з наступных варыянтаў:

продаж указаных аб'ектаў членам працоўнага калектыву, іншым грамадзянам і юрыдычным асобам, якія набываюць маёмасць прадпрыемства;

захаванне існуючага парадку і ўмоў выкарыстання аб'ектаў вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры, якія застаюцца ва ўласнасці дзяржавы;

бязвыплатная іх передача ва ўласнасць членаў працоўнага калектыву, іншых грамадзян і юрыдычных асоб, якія набываюць маёмасць прадпрыемства;

передача ўказаных аб'ектаў на баланс мясцовых органаў.

Рэшткі грашовых сродкаў фондаў эканамічнага стымулявання могуць выкарыстоўвацца для набыцця прадпрыемства (дзяржмаёмасці) членамі яго працоўнага калектыву, калі апошні выступае як суб'ект прыватызацыі. У адваротным выпадку, выкарыстанне рэшткаў грашовых сродкаў фондаў эканамічнага стымулявання вызначаецца камісіяй па прыватызацыі. Пры гэтым члены працоўнага калектыву карыстаюцца правамі размеркавання фонду эканамічнага стымулявання ў адпаведнасці з Законам Беларускай ССР «Аб прадпрыемствах у Беларускай ССР».

### Раздзел ІІІ. ФОРМЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Артыкул 14. Асноўныя формы прыватызацыі**

Прыватызацыя можа ажыццяўляцца ў наступных асноўных формах:

пераўтварэння дзяржаўнага прадпрыемства ў акцыянернае таварыства, калектыўнае прадпрыемства, іншае гаспадарчае таварыства;

выкупу маёмасці дзяржаўнага прадпрыемства, здадзенага ў арэнду, арэндным прадпрыемствам або іншым арандатарам;

продажу дзяржаўных прадпрыемстваў па конкурсу або на аўкцыёне юрыдычным асобам і грамадзянам, у тым ліку і членам працоўнага калектыву прадпрыемства, якое прыватызуецца;

бязвыплатнай передачы маёмасці.

Прыватызацыя можа ажыццяўляцца ў іншых формах, якія не супярэчаць дзеючаму заканадаўству.

**Артыкул 15. Пераўтварэнне дзяржаўных прадпрыемстваў у акцыянерныя таварыствы, іншыя гаспадарчыя таварыствы**

Парадак пераўтварэння дзяржаўнага прадпрыемства ў акцыянернае таварыства, іншае гаспадарчае таварыства вызначаецца гэтым Законам і іншым заканадаўствам Беларускай ССР. Пры гэтым у якасці заснавальніка акцыянернага таварыства, іншага гаспадарчага таварыства пры пераўтварэнні прадпрыемства, якое знаходзіцца ў рэспубліканскай уласнасці, выступае Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР і яго тэрытарыяльныя органы, а ў камунальнай уласнасці — органы прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

Акрамя таго, у якасці заснавальнікаў могуць выступаць і інвестыцыйныя фонды, упаўнаважаныя на тое органамі прыватызацыі.

Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР або органы прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў вызначаюць парадак і ўмовы распаўсюджання акцый (паёў). У якасці трымальнікаў акцый (паёў) могуць выступаць:

суб'екты прыватызацыі;

органы прыватызацыі.

Пры пераўтварэнні дзяржаўнага прадпрыемства ў акцыянернае таварыства, іншае гаспадарчае таварыства размер яго статутнага фонду вызначаецца зыходзячы з ацэначнай вартасці маёмасці прадпрыемства, якое пераўтвараецца.

Продаж акцый ажыццяўляецца Камітэтам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР, яго тэрытарыяльнымі органамі, органамі прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і пасрэднікамі.

Нерэалізаваныя акцыі застаюцца ў распараджэнні органаў прыватызацыі.

**Артыкул 16. Пераўтварэнне дзяржаўнага прадпрыемства ў калектыўнае прадпрыемства**

Пераўтварэнне дзяржаўнага прадпрыемства ў калектыўнае прадпрыемства ажыццяўляецца на аснове пераходу ўсёй маёмасці прадпрыемства ва ўласнасць членаў працоўнага калектыву шляхам выкупу або набыцця маёмасці іншымі, прадугледжанымі заканадаўствам спосабамі.

Парадак устанаўлення долей (паёў) работнікаў-саўладальнікаў вызначаецца статутам калектыўнага прадпрыемства.

**Артыкул 17. Выкуп маёмасці, якая арандуецца**

Выкуп дзяржаўнай маёмасці, якая арандуецца, ажыццяўляецца са згоды арэндадаўцы ў адпаведнасці з Законам Беларускай ССР «Аб арэндзе» і гэтым Законам.

Рашэнне аб выкупе маёмасці, якая арандуецца, прымаецца агульным сходам (канферэнцыяй) калектыву арандатараў прадпрыемства, правамоцным прымаць рашэнні, не менш чым дзвюма трацямі галасоў яго членаў, што прысутнічаюць на сходзе (канферэнцыі).

Кіраўніцтва арэнднага прадпрыемства на падставе рашэння агульнага сходу (канферэнцыі) распрацоўвае праект дагавора выкупу маёмасці, якая арандуецца, і накіроўвае яго органу прыватызацыі, дзе ён разглядаецца ў якасці заяўкі на прыватызацыю. У выпадку станоўчага рашэння па праекту дагавора выкупу ў састаў ствараемай камісіі па прыватызацыі ўключаюцца прадстаўнік арандатара і арэндадаўцы.

Конкурс або аўкцыён для выкупу дзяржаўнай маёмасці, якая арандуецца, не праводзіцца.

Пасля поўнага выкупу кіраўніцтва прадпрыемства афармляе дагавор куплі-продажу.

Тэрміны выкупу маёмасці, якая арандуецца, вызначаюцца дагаворам выкупу і могуць устанаўлівацца да заканчэння тэрміну арэнды.

**Артыкул 18. Парадак і ўмовы правядзення конкурсу**

Парадак продажу дзяржаўных прадпрыемстваў па конкурсу ажыццяўляецца на аснове заканадаўства Беларускай ССР і іншых нарматыўных актаў, якія рэгулююць парадак правядзення конкурсаў.

У конкурсах па набыццю дзяржаўных прадпрыемстваў, якія праводзяцца ў адпаведнасці з гэтым Законам, могуць удзельнічаць у якасці пакупнікоў суб'екты прыватызацыі.

Рашэнне аб продажу аб'екта прыватызацыі па конкурсу прымаецца органамі прыватызацыі. Продаж аб'екта прыватызацыі па конкурсу ажыццяўляе конкурсная камісія.

Парадак правядзення конкурсу рэгулюецца адпаведным палажэннем, зацверджаным Саветам Міністраў Беларускай ССР.

Продаж аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці па конкурсу заключаецца ў прадастаўленні за плату правоў уласнасці асобнаму пакупніку, які прапанаваў у ходзе конкурсу найлепшыя, з пункту гледжання прадаўца, умовы.

Да ліку ўмоў конкурсу могуць быць аднесены:

цана аб'екта прыватызацыі;

абавязацельствы пакупніка па вытворчасці пэўных відаў прадукцыі і (або) паслуг;

абмежаванні па цэнах і тарыфах на выраблаемую прадукцыю і паслугі;

абавязацельствы пакупніка па абароне навакольнага асяроддзя;

абавязацельствы па захаванню або стварэнню новых рабочых месцаў;

абмежаванні на перапродаж аб'екта прыватызацыі і іншыя ўмовы.

**Артыкул 19. Парадак і ўмовы правядзення аўкцыёну**

Парадак продажу дзяржаўных прадпрыемстваў на аўкцыёне ажыццяўляецца на аснове заканадаўства Беларускай ССР і іншых нарматыўных актаў, якія рэгулююць парадак правядзення аўкцыёнаў.

У аўкцыёнах па набыццю дзяржаўных прадпрыемстваў, якія праводзяцца ў адпаведнасці з гэтым Законам, могуць удзельнічаць у якасці пакупнікоў суб'екты прыватызацыі.

Аўкцыён арганізуе орган прыватызацыі, а непасрэдна праводзіць назначаемы ім аўкцыёншчык.

Для прадпрыемства, якое прадаецца на аўкцыёне, першапачаткова назначаемай цаной з'яўляецца яго ацэначная вартасць.

**Артыкул 20. Бязвыплатная передача дзяржаўнай маёмасці**

Бязвыплатная передача дзяржаўнай маёмасці суб'ектам прыватызацыі праводзіцца ў парадку, які вызначаецца Законам Беларускай ССР «Аб арэндзе».

Рашэнне аб бязвыплатнай передачы дзяржаўнай маёмасці, якая адносіцца да рэспубліканскай уласнасці, прымае Савет Міністраў Беларускай ССР, а маёмасці, якая адносіцца да камунальнай уласнасці,— выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

**Артыкул 21. Абавязкі бакоў пры ажыццяўленні прыватызацыі**

Пры прыватызацыі пагадненнем паміж органам прыватызацыі і новым уладальнікам могуць прадугледжвацца ўзаемныя абавязацельствы. Да іх могуць адносіцца:

захаванне на пэўны перыяд профілю прадпрыемства, аб'ёмаў вытворчасці;

захаванне або змяненне колькасці рабочых месцаў;

пастаўка прадукцыі пэўным спажыўцам;

умовы цэнаўтварэння, у тым ліку абмежавання па гранічнаму ўзроўню цэн;

ажыццяўленне мерапрыемстваў па паляпшэнню ўмоў працы, экалагічнай бяспекі і абароне навакольнага асяроддзя;

утрыманне аб'ектаў сацыяльна-бытавога назначэння, захаванне ўмоў іх функцыянавання;

асобы рэжым матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння прадпрыемства;

асаблівасці сацыяльна-бытавога забеспячэння работнікаў;

іншыя абавязацельствы.

**Артыкул 22. Парадак аплаты вартасці аб'ектаў прыватызацыі**

Аплата вартасці аб'ектаў прыватызацыі можа праводзіцца аднаразова або ў растэрміноўку.

Пры продажы ў растэрміноўку размер першапачатковага зносу, працягласць растэрміноўкі, умовы і парадак унясення плацяжоў, а таксама адказнасць за паўнату і своечасовасць узносаў устанаўліваюцца органамі прыватызацыі. Пры гэтым размеры штогадовых выплат павінны ўлічваць змяненне зыходнай вартасці маёмасці ў залежнасці ад росту цэн.

Размер першапачатковага ўзносу пры продажы ў растэрміноўку не можа быць меншым за 30 працэнтаў вартасці аб'екта прыватызацыі, а перыяд растэрміноўкі не павінен перавышаць 10 гадоў.

У выпадку, калі вартасць маёмасці, якая выкупліваецца, пагашаецца часткамі, установы банка па даручэнню прадаўца дзяржаўнай маёмасці выдаюць пакупніку сертыфікат, які засведчвае размер зробленага ўзносу. Сертыфікаты падлягаюць вяртанню ў банк пры выплаце ўсёй сумы.

**Артыкул 23. Парадак афармлення права ўласнасці на аб'екты прыватызацыі**

Орган прыватызацыі пры передачы маёмасці прадпрыемства новаму ўласніку выдае яму адпаведны дакумент, які засведчвае права ўласнасці.

Пры пераўтварэнні дзяржаўнага прадпрыемства ў прадпрыемства, заснаванае на іншых формах уласнасці, яно становіцца яго праваераемнікам, уключаючы права карыстання зямлёй, прыроднымі і іншымі рэсурсамі.

Пры выкупе дзяржаўных прадпрыемстваў у растэрміноўку дакумент, які засведчвае права ўласнасці, выдаецца пасля ўнясення першага выкупнога ўзносу. Да выплаты поўнай вартасці прадпрыемства орган прыватызацыі можа ўстанаўліваць абмежаванні права распараджэння маёмасцю, уключаючы забарону продажу або бязвыплатнай передачы гэтай маёмасці.

### Раздзел IV. ВІДЫ СРОДКАЎ ПЛАЦЯЖУ І НАПРАМКІ ВЫКАРЫСТАННЯ ВЫРУЧКІ АД ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Артыкул 24. Крыніцы сродкаў для прыватызацыі**

Аб'ект дзяржаўнай уласнасці можа быць набыты за кошт любых наяўных у адпаведнасці з заканадаўствам у грамадзян і юрыдычных асоб, дзейнасць якіх заснавана на недзяржаўнай уласнасці, уласных і пазыковых сродкаў.

На мэты выкупу дзяржаўнай уласнасці могуць быць выкарыстаны:

асабістыя сродкі грамадзян;

каштоўныя паперы;

уласныя сродкі недзяржаўных юрыдычных асоб;

рэшткі фондаў эканамічнага стымулявання;

частка прыбытку, якая застаецца ў распараджэнні працоўнага калектыву прадпрыемства;

крэдыты банкаў і іншыя пазыковыя сродкі;

замежныя інвестыцыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Беларускай ССР аб замежных інвестыцыях і іншым заканадаўствам Беларускай ССР;

іншыя фінансавыя сродкі.

Пры набыцці грамадзянамі аб'ектаў прыватызацыі коштам больш за 10 тыс. рублёў дэкларацыя аб даходах гэтых грамадзян і копія дагавора аб набыцці аб'екта дзяржаўнай уласнасці накіроўваюцца органам прыватызацыі ў падатковую інспекцыю.

Амартызацыйныя адлічэнні і выручка ад рэалізацыі асноўных сродкаў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, цэнтралізаваныя капітальныя ўкладанні і датацыі не могуць выкарыстоўвацца ў якасці крыніц набыцця дзяржаўнай маёмасці ва ўласнасць членаў працоўнага калектыву, іншых грамадзян, а таксама юрыдычных асоб, заснаваных на недзяржаўнай форме ўласнасці.

**Артыкул 25. Выкарыстанне ў якасці плацёжнага сродку прыватызацыйных бонаў**

Прыватызацыйны бон — каштоўная папера, якая выконвае функцыі спецыяльнага плацёжнага сродку, што выкарыстоўваецца для набыцця грамадзянамі акцый дзяржаўных акцыянерных прадпрыемстваў і пакупкі (выкупу) вытворчых і не вытворчых фондаў. Боны з'яўляюцца каштоўнымі іменнымі паперамі і выдаюцца грамадзянам Беларускай ССР.

Прыватызацыйныя боны выкарыстоўваюцца толькі для мэт прыватызацыі.

Прыватызацыйныя боны выдаюцца ў роўнай колькасці (на аднолькавую суму) аднаразова ўсім грамадзянам Беларускай ССР. Колькасць бонаў, выдаваемых грамадзянам Беларускай ССР, і іх намінальная вартасць вызначаюцца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

**ВАРЫЯНТ.**

Прыватызацыйныя боны выдаюцца паўналетнім грамадзянам Беларускай ССР. Агульная вартасць бонаў, якія выдаюцца кожнаму паўналетняму грамадзяніну Беларускай ССР, вызначаецца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР у залежнасці ад узросту, працоўнага стажу і іншых фактараў. Колькасць бонаў, якія выдаюцца паўналетнім грамадзянам Беларускай ССР, і іх намінальная вартасць вызначаюцца Саветам Міністраў Беларускай ССР.

Выпуск прыватызацыйных бонаў і разлікі па іх праводзіць і кантралюе Нацыянальны банк Беларускай ССР.

Прыватызацыйныя боны выдаюцца грамадзянам Беларускай ССР па месцы іх пастаяннага жыхарства выканаўчымі камітэтамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

Час дзеяння прыватызацыйных бонаў вызначаецца Саветам Міністраў Беларускай ССР і аб'яўляецца перад выдачай бонаў.

Прыватызацыйныя боны могуць быць змешчаны ва ўстановы Ашчаднага банка Беларускай ССР з налічэннем працэнтаў, але без выдачы іх наяўнымі грашыма. Размер працэнтаў устанаўліваецца Нацыянальным банкам Беларускай ССР.

Парадак выдачы і выкарыстанне прыватызацыйных бонаў рэгулюецца заканадаўствам Беларускай ССР.

**Артыкул 26. Выкарыстанне выручкі ад прыватызацыі**

Сродкі (выручка), атрыманыя ад продажу аб'ектаў прыватызацыі, залічваюцца на спецыяльныя рахункі (фонды прыватызацыі) і з'яўляюцца ўласнасцю Беларускай ССР.

Вартасць прыватызацыйных бонаў, выкарыстаных для разліку за набытыя аб'екты прыватызацыі, у фонд прыватызацыі не ўключаецца.

Напрамкі і парадак выкарыстання сродкаў фондаў прыватызацыі вызначаюцца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР і адпаведнымі мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў.

Выручка ад прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці ва ўстаноўленых Вярхоўным Саветам Беларускай ССР і мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў размерах можа быць выкарыстана на наступныя мэты:

пакрыццё даўгоў дзяржаўных аб'ектаў, якія прыватызуюцца;

пакрыццё дзяржаўнага доўгу;

развіццё прыватызацыі (для прадастаўлення крэдытаў).

Сродкі ад прыватызацыі, якія паступаюць у замежнай валюце, выкарыстоўваюцца для пагашэння знешняга дзяржаўнага доўгу.

### Раздзел V. ІЛЬГОТЫ І САЦЫЯЛЬНЫЯ ГАРАНТЫІ РАБОТНІКАМ АБ'ЕКТАЎ, ЯКІЯ ПРЫВАТЫЗУЮЦЦА

**Артыкул 27. Ільготы, якія прадастаўляюцца пры прыватызацыі**

Пры прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці членам працоўнага калектыву могуць прадастаўляцца наступныя льготы:

передача ў бязвыплатнае карыстанне аб'ектаў вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры, якія знаходзяцца на балансе прадпрыемства;

продаж акцый і іншай маёмасці ў растэрміноўку;

продаж акцый і іншай маёмасці па льготных цэнах;

бязвыплатная передача асобных відаў вытворчых фондаў, самартызаваных на 70 і больш працэнтаў.

Сумарны размер ільгот, якія прадастаўляюцца членам працоўнага калектыву пры выкупе маёмасці, не можа перавышаць 30 працэнтаў ад яго першапачатковай ацэначнай вартасці.

**Артыкул 28. Сацыяльныя гарантыі работнікам аб'ектаў, якія прыватызуюцца**

У перыяд ажыццяўлення прыватызацыі адміністрацыя прадпрыемства абавязана выконваць усе палажэнні заключанага раней калектыўнага дагавора.

Асоба, якая атрымала прадпрыемства, што прыватызуецца, ва ўласнасць, абавязана на працягу 6 месяцаў з моманту афармлення права ўласнасці заключыць калектыўны дагавор з калектывам прадпрыемства.

Змест калектыўнага дагавора вызначаецца бакамі самастойна, аднак ён не можа супярэчыць нормам працоўнага заканадаўства.

Сацыяльныя гарантыі работнікам, якія вызваляюцца па ініцыятыве асобы, якая атрымала прадпрыемства, што прыватызуецца, ва ўласнасць, забяспечваюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Расходы, звязаныя са спыненнем і аднаўленнем працоўнага дагавора, нясе новы ўладальнік маёмасці.

Па абавязках, якія вынікаюць з працоўных адносін да завяршэння прыватызацыі, нясе адказнасць дзяржава.

